# РУХ за свабоду

Бюлетэнь ПАГА «Рух »За Свабоду»» Выпуск №1 студзень 2015 году



Жанчыны дзеля пераменаў – стар.3

Заклік «Народнага рэферэндуму» – стар.6

Вечарына памяці Гавела – стар.8


# Куды рушым?

**Кіраўніцтва Руху «За Свабоду» аналізуе падзеі 2014 году і дзейнасць арганізацыі ў ім, а таксама акрэслівае планы на 2015-ты.**



**Аляксандр Мілінкевіч** пра цывілізацыйны выбар: «Нам урэшце трэба адказаць перш за ўсё самім сабе – мы еўрапейцы ці частка »русского мира«?»

**Галіна Скараход** пра жаноцкі погляд на грамадства: «Хто, як не жанчыны, найчасцей сутыкаюцца з імі у паўсядзённым жыцці – у медычных, школьных, дзяржаўных установах?»

**Юрась Губарэвіч** пра блізкія прэзідэнцкія выбары: «Важная нават не асоба адзінага кандыдата, а яго пазіцыя і праграма. Істотна, каб, апрача пытанняў »Народнага рэферэндуму«, была артыкулявана праблема незалежнасці Беларусі».

**Алесь Лагвінец** пра плён адукацыйнай дзейнасці: «Рух папаўняецца кагортай маладых і амбітных актывістаў. Ёсць планы і патэнцыял, каб стварыць моладзевую структуру ў арганізацыі».

**працяг на стар. 2-3**

# Мілінкевіч у ЕГУ?



**Старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч – адзін з прэтэндэнтаў на пасаду рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэту, які працуе ў Вільні.**

Выбары цягнуцца ўжо некалькі месяцаў, імя пераможцы будзе названа ў сакавіку. Не абыходзіцца без скандалаў. Так, дзясяткі грамадскіх, навуковых і культурніцкіх дзеячаў адкрытым лістом выказалі недавер Адборачнай камісіі па выбарах рэктара ЕГУ. Сярод іх – Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Алесь Бяляцкі, Лявон Вольскі, Віктар Дашук, Святлана Калінкіна, Жана Літвіна, Уладзімір Някляеў, Аляксей Пікулік, Павел Севярынец, Алег Трусаў, Юрый Хашчавацкі…

Імі заяўлена, што ўніверсітэт, закліканы стаць самым еўрапейскім з усіх беларускіх, мала адпавядае заяўленым ідэалам:

**працяг на стар. 4**

# Куды рушым? (працяг)

працяг ад стар. 1

## Еўрапейцы ці частка «русского мира»?




**Аляксандр МІЛІНКЕВІЧ, Старшыня Руху**

Гадамі здавалася, што ў Беларусі цішыня, захоўваецца статус-кво, а вакол перамены. Падзеі ва Украіне ўскалыхнулі грамадства, паставілі пытанні, на якія мусяць адказаць беларусы.

Жорсткая прывязка да расійскай эканомікі - гэта наша дасягненне альбо пагроза? Ці безаглядная інтэграцыя ў Еўразію, скампенсаваная шчодрымі падарункамі-наркотыкамі з Масквы, ёсць слушнай стратэгіяй на будучыню?

Расія хварэе на постімперскі сіндром. Захоп Крыма і агрэсія на ўсходзе Украіны канчаткова паставілі дыягназ: Крэмль не жадае жыць па прынцыпах цывілізаванага свету.

А мы? Нам урэшце трэба адказаць перш за ўсё самім сабе – мы еўрапейцы ці частка «русского мира»?

Калі хочам жыць па еўрапейскіх стандартах, хочам, каб у дзяцей была беларуская перспектыва, мусім вызначыцца – дзе нашае месца. І сказаць пра свой выбар сумленна, адказна і ў голас!

## Гартаваць і гуртаваць




**Юрась ГУБАРЭВІЧ, першы намеснік старшыні Руху**

Сёлета мы традыцыйна возьмем актыўны ўдзел уназіранні, у планах таксама праца на кандыдата, які можна быць вылучаны з шэрагаў Руху «За Свабоду» альбо падтрыманы намі.

На парламенцкія выбары Рух «За Свабоду» можа выставіць шэраг кандыдатаў, якія пойдуць да выбаршчыкаў адной камандай з кандыдатамі ад партнёрскіх партый і арганізацый, што сумесна прасоўваюць ініцыятыву «Народны рэферэндум».

Удзел у парламенцкіх выбарах у такім фармаце паспрыяе павелічэнню колькасці прыхільнікаў мірных пераменаў, а менавіта такую стратэгічную мэту мае «Народны рэферэндум». Апрача таго, такім чынам мы гартуем рэгіянальных лідараў і гуртуем вакол іх актыўных грамадзян.

Рух «За Свабоду» разам з партнёрамі па кампаніі «Народны рэферэндум» актывізуе збор подпісаў у яго падтрымку. У лютым іх будзе ўжо 100 тысяч. Прычым збор подпісаў прыхільнікаў пераменаў будзе весціся з акцэнтам на пашырэнне геаграфіі «Народнага рэферэндуму» - у новых гарадах, дзе мы яшчэ гэтага не рабілі.

«Народны рэферэндум» – гэта і канкрэтызаванае аб'яднанне тых беларусаў, якія прагнуць пераменаў, і кансалідацыйная пляцоўка для апазіцыі, што вельмі важна ў год прэзідэнцкіх выбараў.

Вяртаючыся да гэтай тэмы. Рух «За Свабоду» выступае за абранне адзінага кандыдата ад апазіцыі. Ім можа стаць у тым ліку і той палітык, па персоне якога спачатку будзе знойдзены кампраміс сярод арганізацыяй і партый, што бяруць удзел у кампаніі «Народны рэферэндум».

Але тут больш важная нават не асоба адзінага кандыдата, а яго пазіцыя і праграма. Так, для Руху «За Свабоду» істотна, каб, апрача пытанняў «Народнага рэферэндуму», у праграме «адзінага» была артыкулявана праблема незалежнасці Беларусі і цывілізацыйнага выбару.



# Жанчыны і перамены



**Намесніца старшыні Руху «За Свабоду» Галіна СКАРАХОД:**

У мінулым годзе Рух быу адзначаны экспертнай супольнасцю як структура, якая заўважна актыўнічае ў тэме гендэрнай роўнасці. Была прынята праграма «Гендэрны баланс» з палажэннямі, паступовая рэалізацыя якіх можа істотна палепшыць сітуацыю з прасоўваннем жанчын у працэсы прыняцця рашэнняў. Але зразумела, што найперш гэта залежыць ад жадання саміх жанчын больш уплываць на грамадскае і палітычнае жыцце.

Створана сетка жаночых клубаў для абмеркавання праблем, якія востра стаяць перад грамадствам: хто, як не жанчыны, найчасцей сутыкаюцца з імі у паўсядзённым жыцці – у медычных, школьных, дзяржаўных установах?

Удзел у міжнародных канферэнцыях падвысіў веды па такіх балючых з'явах у грамадстве, як хатні гвалт, няроўнасць жанчын у сферах грамадскага кіравання, бізнэсу, палітычных працэсах. Асабліва цікавымі для стварэння кантактаў былі Міжнародная жаночая канферэнцыя WAVE ў Вене і сустрэча Міжнароднай Жаночай Сеткі у Вільні. Працягвалася сталая супраца на Нацыянальнай гендэрнай платформе, дзе прадстаўніца Руху каардынуе працу адной з пляцовак.

Напрыканцы года пачалася супольная праца з 11 палітычнымі і грамадскімі структурамі па стварэнні Антыкарупцыйнай платформы, прэзентацыя якой плануецца цягам наступнага году ў розных рэгіенах Беларусі. Асобную ўвагу варта надаць пачатку экспертнай працы па стварэнні агульнага бачання праграмы прыватызацыі і мадэрнізацыі беларускіх прадпрыемстваў, якую паводле згоды з партнёрамі каардынуе менавіта Рух «За Свабоду».

Наступны год вымагае дадатковай працы падчас палітычнага працэсу па мабілізацыі жанчын для падтрымкі дэмакратычных кандыдатаў у рамках кампаніі «Жанчыны за перамены»

# Патрэбная праграма рэформаў



**Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Алесь ЛАГВІНЕЦ:**

У 2014 годзе ў рамках нашай «Народнай праграмы» мы распрацавалі тэматычныя выбарчыя матэрыялы для кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў, зладзілі для іх адмысловае навучанне ва ўсіх рэгіёнах краіны, а таксама арганізавалі і паспяхова правялі прадстаўнічую міжнародную канферэнцыю «Праграма пераўтварэнняў для Беларусі: рэгіянальны досвед і выклікі». Удзел у ёй узялі рэфарматары з суседніх краінаў, у тым ліку «бацька» польскай «шокавай тэрапіі» прафесар Лешак Бальцэровіч, а таксама вядомыя беларускія эканамісты, палітыкі і палітолагі.

У 2015 годзе пад кампанію прэзідэнцкіх выбараў мы плануем далей прасоўваць «Народную праграму» і стварыць комплексную праграму рэформаў па выхадзе з крызісу, аднаўленні эканамічнага росту, паляпшэнні дабрабыту беларусаў і збліжэнні з еўрапейскімі краінамі.

Адукацыйная дзейнасць Руху дазваляе пашыраць падвышаць узровень нашых сябраў, а таксама пашыраць нашы шэрагі. У 2014 годзе мы паспяхова правялі ўжо чацвёртую па ліку Школу для моладзі. Яе тэматыка была вельмі актуальнай – «Беларуская ідэя і шляхі нацыянальнай кансалідацыі ў Беларусі».

У мінскім Еўраклубе ў сёмы раз выкладаўся курс пра еўраінтэграцыю, адкрыты для ўсіх зацікаўленых. Дзякуючы адукацыйнай дзейнасці Рух папаўняецца кагортай маладых і амбітных актывістаў. У нас ёсць планы і патэнцыял, каб стварыць моладзевую структуру ў арганізацыі.

# Мілінкевіч у ЕГУ? (працяг ад стар. 1)

«Галоўнымі прычынамі працяглага сістэмнага крызісу з’яўляюцца ліквідацыя акадэмічнага самакіравання і стварэнне закрытай аўтарытарнай сістэмы адміністравання. Ключавыя для лёсу універсітэта рашэнні прымаюцца без удзелу выкладчыкаў, студэнтаў і іншых стэкхолдараў».

У адкрытым лісце зазначана, што працэс выбару рэктара ажыццяўляецца ў рэжыме інфармацыйнай ізаляцыі:

“Ні акадэмічная супольнасць ЕГУ, ні грамадзянская супольнасць Беларусі, ні міжнародная грамадскасць не маюць інфармацыі аб выніках этапаў абмеркавання кандыдатаў і агульнай хады выбараў. Гэта выводзіць выбарны працэс з-пад кантролю стэкхолдэраў і грамадскага меркавання.

Такое становішча выклікае сур'ёзныя сумневы ў тым, што рашэнне Адборачнай камісіі будзе ўзважаным і справядлівым. Мы занадта добра ведаем, як робяцца выбары ў Беларусі. І не хочам «беларускіх выбараў» у Еўропе”.

Прэтэндэнты на рэктарства ў ЕГУ абнародваюць сваё бачанне развіцця гэтае ВНУ. Аляксандр Мілінкевіч склаў пяць тэзаў:

“Хто выбірае сёння — на выбарах новага рэктара Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта? Фармальна — Агульны сход сузаснавальнікаў. Аднак, па сутнасці, гэта наш супольны выбар. Выбар усіх, каму не абыякавы лёс беларускай ВНУ за межамі Беларусі. ЕГУ - не прыватны праект. Ён будзе паспяховым толькі тады, калі стане сумай нашых асэнсаваных калектыўных намаганняў на карысць краіны. Вось мае пяць тэзаў для ЕГУ

**1. Беларускасць як стратэгічны выбар**




ЕГУ мае выдатную перспектыву стаць цэнтрам даследаванняў пра Беларусь і для Беларусі. Ён здольны аб'яднаць вакол сябе як навукоўцаў розных краін, так і беларусаарыентаваныя праекты — ад незалежных даследчых цэнтраў да бізнэс-структур і несістэмных адукацыйных ініцыятыў.

**2. Еўропа — не прытулак, а месца дзеяння**

Еўрапейскасць павінна стаць для ЕГУ не пазнакай на мапе, а грунтоўным прынцыпам існавання.

Рэальны еўрапейскі статус універсітэта прынясуць актыўнае ўключэнне ў міжнародныя адукацыйныя праграмы і даследчыя праекты, інтэнсіўныя студэнцкія абмены, рост публікацый, павышэнне індэксу цытавання і кампетэнтная прысутнасць у публічным полі. Пара перастаць быць «ахвярамі рэжыму» і інтэлектуаламі «у выгнанні». Час стаць адэкватнымі партнёрамі. ЕГУ здольны прынесці больш еўрапейскага ў Беларусь, а не толькі больш беларусаў у Еўропу.

**3. Актыўна зарабляць, разумна выдаткоўваць**

Менавіта такі падыход можа змякчыць праблему скарачэння фінансавання для «універсітэта, які жыве з міласціны».

Тры асноўныя вектары пазітыўнай перспектывы: пошук новых партнёраў (у тым ліку для падтрымкі асобных курсаў і праграм), пашырэнне спісу платных паслуг (для замежных студэнтаў, завочнага навучання і паслядыпломнай адукацыі) — і жыццё па сродках, што азначае скарачэнне неэфектыўных выдаткаў і раздзьмутага адміністрацыйнага штата. З пераразмеркаваннем рэсурсаў на карысць студэнтаў — тых, ад каго залежыць будучыня краіны.

**4. Няма акадэмічнага жыцця без акадэмічных свабодаў**

Неабходная рэформа кіравання. Патрэбны пераход ад адміністрацыйнай мадэлі да партнёрскай працы з акадэмічным самакіраваннем, прафсаюзамі і студэнтамі. Варта баяцца не крытыкі, а поўнай аднадушнасці і татальнага канфармізму. Энергія нязгоды — магутны крэатыўны рэсурс, а здольнасць адкрыта казаць аб праблемах — самы просты шлях да іх вырашэння.

**5. ЕГУ — не прыватнае прадпрыемства, а акадэмічны праект грамадзянскай супольнасці**

Універсітэт мае гістарычны шанец — стаць першай нацыянальнай ВНУ Беларусі.

Але для гэтага ён павінен з непразрыстай для беларускага грамадства ўстановы ператварыцца ў цэнтр, які акумулюе крэатыўны патэнцыял нацыі і скарыстоўвае яго на карысць краіны. Неабходны шчыльны кантакт з беларускімі адукацыйнымі структурамі, даследчымі цэнтрамі, экспертнымі групамі і грамадскімі ініцыятывамі.

Сацыяльная місія ясная: грамадства будуе ЕГУ, ЕГУ працуе на грамадства. Галоўная задача Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта — стаць школай еўрапейскіх каштоўнасцяў, грамадзянскай актыўнасці і сацыяльнай адказнасці».

# «Не трэба баяцца быць адлічаным»

**Студэнт Інстытута журналістыкі БДУ, сябра Руху «За Свабоду» Мікіта Семяненка, якога адлічылі з універсітэта па палітычных матывах, распавёў пра сваё цяперашняе жыццё ў польскім горадзе Торунь.**



«Калі мяне адлічылі, вядома ж, надышла моцная крыўда, расчараванне ў беларускай сістэме адукацыі, — распавядае Мікіта сайту »Студэнкай Рады«. — Але ж ніякай боязі за сваю будучыню дакладна не было. Вельмі падтрымалі мяне у той сітуацыі мае аднагрупнікі, пэўныя выкладчыкі. Аднакурснікі дапамагалі збіраць подпісы супраць майго адлічэння. Староста не магла паверыць у тое, што адбываецца, спрабавала размаўляць з кіраўніцтвам інстытута, дэканату. Але ж, калі рэктар паведаміў, што ўсе паперы падпісаныя ўчарашняй датай, ужо нічога не заставалася, як шукаць іншыя варыянты працягу адукацыі».

Напачатку хлопец думаў аднавіцца праз паўгода. Але, прааналізаваўшы сітуацыю, узгадаўшы, што праз год у Беларусі прэзідэнцкія выбары, Мікіта зразумеў: нічым добрым гэта не скончыцца.

Тым больш, адразу пасля адлічэння Мікіце прапанавалі адразу дзве стыпендыяльныя праграмы для палітычных актывістаў з Беларусі. Адна ў віленскім ЕГУ, іншая – праграма імя Кастуся Каліноўскага ў Польшчы. Хлопец вырашыў працягнуць сваю адукацыю ў Польшчы.

«З гэтага году на праграме больш не пытаюцца, у якой вну і горадзе ты хочаш атрымліваць адукацыю, а толькі прыблізную спецыяльнасць, — распавядае Мікіта. — Студэнтаў размяркоўвалі ў розныя універсіты па ўсіх кутках Польшчы. Па выніку апынуўся ў казачным горадзе Торунь, тут знаходзіцца пяты па рэйтынгу польскі універсітэт імя Мікалая Каперніка. Я для сябе абраў PR & Branding (у Беларусі хлопец вучыўся на спецыяльнасці »міжнародная журналістыка«)».

Юнак зазначае: жыццё ў Польшчы значна адрозніваецца ад беларускага, і не ў станоўчы для Айчыны бок. Ежа, тэхніка і бытавыя рэчы часам у тры, а то і ў чатыры разы танней, чым ў Беларусі. Таксама студэнт у Польшчы — гэта нейкі статус, існуюць мільёны зніжак для студэнтаў пачынаючы ад гарадскога транспарту, міжгародніх цягнікоў і скончаючы коштамі ў меню і мерапрыемствамі выключна для студэнтаў.

Таксама моцна адрозніваецца і сістэма вышэйшай адукацыі. Польшча – чалец Балонскай сістэмы, таму там дзейнічае сістэма бакалаўрыяту. Тры гады студэнт атрымоўвае ступень бакалаўра плюс два гады магістратуры. На пачатку году там не выдаюць падручнікі з абавязковай літаратураю, а выкладчыкі падчас заняткаў чакаюць ад навучэнцаў толькі ўласны аналіз. Можна бясплатна запісацца на іншыя спецыяльнасці твайго ўніверсітэта, наведваць лекцыі, семінары і па сканчэнні вну атрымаць дыплом з некалькімі прафесіямі.

Мікіта не закінуў грамадскую дзейнасць. Ён па-ранейшаму бярэ ўдзел у розных мерапрыемствах і канферэнцыях на палітычныя тэмы. Таксама разам з калегамі абмяркоўвае развіццё палітычнай сітуацыі ў Беларусі і магчымасці падтрымкі з-за мяжы беларускіх партнёраў.

«Вядома, пакуль я ў Польшчы, мая дзейнасць на карысць беларускай грамадзянскай супольнасці непаўнавартасная, — зазначае Мікіта. — Для мяне Беларусь — гэта больш, чым проста краіна. Я ўпэўнены, што буду браць непасрэдны ўдзел у развіцці нашай краіны і станаўленні яе як незалежнай дзяржавы. Таму маё вяртанне нават не абмяркоўваецца. Вельмі сумна было ад'язджаць у іншую краіну, але ж вярнуся я ўжо чалавекам, што бачыў свет і можа нешта прапанаваць».

У хлопца захаваліся добрыя стасункі са сваімі былымі беларускімі аднагрупнікамі, ён нават сустракаецца з некаторымі і камунікуе.

Мікіта раіць не баяцца нічога ў жыцці. І ў тым ліку – быць адлічаным:

«Галоўнае — гэта самаўдасканаленне. Раю шмат чытаць, слухаць, назіраць і не забываць выказваць свой пункт гледжання на тое, што адбываецца, нават калі ты ў меншасці. Тады ўсё атрымаецца».

# Заклік да мірных пераменаў

**Прадстаўнікі кампаніі «Народны рэферэндум» у супольнай заяве заклікалі прэзідэнта і Палату прадстаўнікоў пачаць мірныя перамены, ініцыяваўшы правядзенне плебісцыту. Подпісы пад дакументам паставілі прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), кампаніі «Гавары праўду», Партыі БНФ і Руху «За Свабоду».**

Пры канцы снежня «Народны рэферэндум» заклікаў Аляксандра Лукашэнку сабраць пазачарговую сесію парламента. І гэтак сталася…




Пазачарговая сесія Палаты прадстаўнікоў працавала 15 студзеня, але толькі каб «прыняць фармальныя рашэнні - зацвердзіць прызначаных чыноўнікаў новага ўрада», зазначаюць ініцыятары «Народнага рэферэндуму». «Фармальныя рашэнні - гэта сёння знак бяды для Беларусі. Мы бачым, як шмат што робіцца фармальна, без адказнасці за будучыню, без таго, каб чуць голас беларусаў. Напрыклад, дэпутаты дазволілі сабе сысці ў адпачынак з бюджэтам на 2015 год, у якім нафта каштуе 80 долараў, што амаль удвая даражэй, чым рэальны кошт на сёння. Сесія была закрытая ў дзень, калі ўрад пачаў дэвальваваць беларускі рубель, і ніхто не папярэдзіў выбарцаў, не задаў пытанні ўраду», - адзначаецца ў заяве.

На думку ініцыятараў «Народнага рэферэндуму», «ва ўмовах, калі перад Беларуссю стаяць такія сур'ёзныя выклікі, як небяспека быць уцягнутай у чужы канфлікт, эканамічная нестабільнасць і адсутнасць рэформаў, гэта недапушчальна». «Дэпутаты павінны пачаць слухаць народ і падпарадкоўвацца яго волі. Сёння гэта воля да мірных пераменаў у Беларусі», - адзначаецца ў заяве.

Ініцыятары «Народнага рэферэндуму» заклікаюць дэпутатаў ініцыяваць правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму па пытаннях, прапанаваных грамадзянамі ў межах кампаніі. У выпадку адмовы дэпутатаў кіраўніку краіны як гаранту правоў грамадзянаў прапануецца самастойна прызначыць рэферэндум.

«Народны рэферэндум» - гэта сродак, што дазваляе даць адказы на выклікі, якія стаяць перад Беларуссю, і дасягнуць нацыянальнай згоды па асноўных пытаннях развіцця нашай краіны. Мы будзем і далей адстойваць права беларусаў на мірныя перамены", - заяўляюць ініцыятары кампаніі.

Першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч лічыць, што ва ўмовах крызіснай сітуацыі ва ўладаў ёсць два варыянты дзеянняў. Першае: улада можа не рабіць ніякіх дэмакратычных і эканамічных пераўтварэнняў, што рана ці позна прывядзе да таго, што людзі, як ва Украіне, выйдуць на вуліцы з патрабаваннямі змены ўлады. Другое: прадэманстраваць, што яны гатовыя да прыняцця эфектыўных рашэнняў, напрыклад, правёўшы рэферэндум. «Думаю, у такой сітуацыі правядзенне рэферэндуму для ўладаў было б меншым злом», - кажа Губарэвіч.

**Шэсць пытанняў «Народнага рэферэндуму»:**

1. Ці згодныя вы, што ў дзяржаўных установах адукацыі і аховы здароўя ўсе паслугі грамадзянам Беларусі павінны аказвацца бясплатна?
2. Ці згодныя вы, што кіраўнікі выканкамаў гарадоў, раёнаў, абласцей павінны абірацца прамым галасаваннем грамадзян?
3. Ці падтрымліваеце вы курс на эканамічную інтэграцыю, асацыяцыю і стварэнне бязвізавай прасторы з Еўрапейскім Саюзам?
4. Ці згодныя вы, што дзеля забеспячэння нейтральнага статусу Беларусі ў краіне павінна быць забаронена размяшчэнне замежных вайсковых аб'ектаў, ядзернай зброі, а беларускія вайскоўцы не мусяць несці службу за мяжой?
5. Ці згодныя вы, што адна і тая ж асоба не можа займаць пасаду прэзідэнта больш за два тэрміны?
6. Ці згодныя вы, што грошы, атрыманыя ад запланаванай урадам прыватызацыі, у першую чаргу павінны пайсці на кампенсацыю ўкладаў, згубленых пад час дэвальвацыі-2011, і стварэнне працоўных месцаў?

# Еўрабеларусаў стала болей

**У знешнепалітычных арыентацыях беларусаў узмацняецца насцярожанае стаўленне да Расіі і пaступова вяртаецца цікавасць да Еўропы. Гэткія высновы на падставе вынікаў апошняга, снежаньскага, апытання НІСЭПД.**

У параўнанні з вераснем доля «еўрабеларусаў» крыху павысілася. На гіпатэтычным рэферэндуме аб уступленні ў Еўрапейскі Саюз «за» сёння прагаласавалі б 28.8%, «супраць» - 49.8% (у верасні 25% vs. 50.3%). На рэферэндуме аб аб'яднанні Беларусі і Расіі «за» прагаласавалі б 23.9%, «супраць» - 58.4% (у верасні 23% vs. 54.3%). Калі ў адказах на пытанне аб выбары «альбо-альбо» у верасні «за» аб'яднанне з РФ было 47.4%, а за ўступленне ў ЕС 32%, то сёння - 44.9% vs. 34.2%. Ацэньваючы перспектывы сяброўства Беларусі ў Арганізацыі дамовы калектыўнай бяспекі, 44.4% рэспандэнтаў сказалі, што гэта «забяспечвае бяспеку Беларусі», а 42.7% - што гэта «тоіць у сабе ўцягванне Беларусі ў ваенныя авантуры Расіі».

Несумненна, ключавым фактарам, які ўплывае на такое змяненне знешнепалітычных арыентацый беларусаў, з'яўляецца украінска-расійскі крызіс: хоць сімпатыі з большага застаюцца на баку Расіі, яны прыкметна зніжаюцца. Напрыклад, ацэнка далучэння Крыму да Расіі як «вяртання рускіх зямель, аднаўлення гістарычнай справядлівасці» знізілася з 62.2% у чэрвені да 56.8% у снежні, а як «імперыялістычнага захопу, акупацыі» - павысілася з 26.9% да 31.6%.

Амаль палова рэспандэнтаў падтрымлівае незалежнасць Наваросіі і лічаць, што яе «народ мае права на самавызначэнне», 22.1% падтрымліваюць тэрытарыяльную цэласнасць Украіны, а 18.4% наогул лічаць, што «няма ніякай Наваросіі, ёсць расейская агрэсія супраць Украіны».

У той жа час праеўрапейскія і, больш шырока кажучы, празаходнія арыентацыі беларусаў не варта пераацэньваць, адзначаюць сацыёлагі. Так, 64.4% апытаных пагадзіліся з нядаўняй заявай кіраўніка МЗС Расіі Сяргея Лаўрова, што «сапраўдная мэта заходніх санкцый у дачыненні да Расіі заключаецца ў тым, каб »перарабіць Расію«, не пагадзіліся 23.4%. З заявай Аляксандра Лукашэнкі, зробленай у сувязі з канфліктам ва Украіне, што »Дзядзька Сэм «з-за акіяна пастаянна падштурхоўвае нас да бойні», пагадзіліся 60.9%, не пагадзіліся 28.7%. Калі б краіны NATO паспрабавалі озброеным шляхам змяніць палітыку Беларусі, амаль 26% апытаных «супраціўляліся б са зброяй у руках», і крыху больш за 10% «віталі б гэтыя змены» (такія ж лічбы былі і ў верасні). Таму вялікая частка беларусаў працягвае падтрымліваць «інтэграцыю на Усход»: 44.4% ацэньваюць становча сяброўства Беларусі ў Еўразійскім эканамічным саюзе, 31.5% - ставяцца абыякава, 18.1% - адмоўна (6% не змаглі з адказам).

> “ ацэнка далучэння Крыму да Расіі як «вяртання рускіх зямель, аднаўлення гістарычнай справядлівасці» знізілася з 62.2% у чэрвені да 56.8% у снежні, а як «імперыялістычнага захопу, акупацыі» - павысілася з 26.9% да 31.6%

Колькасць тых, хто лічыць, што кардынальныя перамены ва ўнутранай І знешняй палітыцы Беларусі ў бліжэйшыя пяць гадоў «дастаткова імаверныя», складае сёння 34.4%, «малаверагодныя» - 45.9%, «немагчымыя» - 13.9% (5.8% было складана адказаць).

Хацелі б, каб такія перамены адбыліся - 51.9% (не хацелі б 17.7%, ставяцца да гэтага абыякава 19.9%, не змаглі адказаць 10.5%). Аднак дэмакратычнай апазіцыі рана радавацца, паколькі само разуменне «кардынальных пераменаў» ў беларускім грамадстве вельмі рознае: толькі 44.1% разумеюць іх як памяншэнне ролі дзяржавы ў жыцці грамадства, прадастаўленне большай свабоды дзеянняў сваім грамадзянам, а 46.4% - наадварот, як узмацненне ролі дзяржавы ў грамадстве, вялікую падтрымку сваіх грамадзян.

На фоне падзей у Украіне такое разуменне пераменаў прывяло да мінімальнага за амаль 15 гадоў маніторынгу НІСЭПД узроўню ўдзелу ў публічных акцыях пратэсту: калі ў жніўні 2001 г. у мітынгах і пікетах ўдзельнічалі 16.7% апытаных, у страйках 12.9%, у галадоўках 4%, то у снежні 2014-га - 9.3%, 1.6%, 0.8% адпаведна.

Такія настроі праецыруюцца і на 2015 год - год прэзідэнцкіх выбараў. Напрыклад, у выпадку, «калі выбары будуць сфальсіфікаваныя», на думку 23.9% рэспандэнтаў, апазіцыя павінна заклікаць людзей выйсці на плошчу і арганізоўваць масавыя пратэсты, а 61.7% прытрымліваюцца супрацьлеглага меркавання (14.4% не змаглі адказаць). Гатоўнасць прыняць удзел у масавых пратэстах пасля выбараў, калі іх вынікі будуць сфальсіфікаваныя, выказалі 13.4%, а амаль 80% адказалі адмоўна.

# Жыццё ў праўдзе Гавела

**У студзені ў пасольстве Чэхіі ў Мінску прайшла традыцыйная, чацвёртая па ліку, вечарына памяці Вацлава Гавела - пісьменніка, дысідэнта, праваабаронцы, апошняга прэзідэнта Чэхаславакіі і першага прэзідэнта Чэхіі.**

Удзел у імпрэзе ўзялі паслы Чэхіі і Славакіі Мілан Экерт і Міраслаў Майжыта, які адзначыў, што дзякуючы Гавелу адбыўся мірны і цывілізаваны «развод» дзвюх дзяржаў, а таксама багата беларускіх палітыкаў, грамадскіх і культурных дзеячаў: Алесь Бяляцкі, Уладзімір Арлоў, Сяргей Чалы, Уладзімір Падгол, Жана Літвіна, Мечыслаў Грыб, Алег Трусаў, Рыгор Кастусёў, Павал Севярынец, Вінцук Вячорка, Юры Зісер, Уладзімір Дунаеў…




Вядучым быў намеснік старшыні Руху «За Свабоду», палітолаг Алесь Лагвінец.

«Гавел разумеў, што, толькі аб'яднаўшыся разам, можна дамагчыся палітычных зменаў. Гэта вельмі актуальна для цяперашняй Беларусі», - сказаў праваабаронца і былы палітвязень Алесь Бяляцкі.

Падчас імпрэзы адбылася прэзентацыя кнігі Гавела - «Жыццё ў праўдзе» (у беларускамоўным перакладзе). Старшыня беларускага ПЭН-цэнтру, паэт Андрэй Хадановіч назваў яе лепшай кнігай 2014 году.









Газета выдаецца Рухам «За Свабоду». Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна.
Падпісана ў друк 30.01.2015 г. Кантакты рэдакцыі: тэлефон +375 17 2808863, е-пошта info@pyx.by